ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

КНІГА НОША

№ 33
жнівень, 2015

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Тамара АЎСЯННІКАВА:

# «Навучаючы, мы вучымся самі...»



**– Шаноўная Тамара Пятроўна, у выдавецтве «Кнігазбор» у серыі Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» нядаўна выйшла Вашая новая кніга «Скрыжалі», і ўжо адбылося некалькі прэзентацыяў. Як яна была ўспрынятая чытачамі?**

– Аб гэтым, канешне, лепш пытацца ў чытачоў. Трэба прызнаць, што кола прыхільнікаў паэзіі сёння абмежавана. Але, калі меркаваць па тых, хто прыйшоў на прэзентацыю, то – станоўча. Некаторыя з прысутных выказалі жаданне прачытаць вершы, якія кранулі іх душу.

Я вельмі ўдзячна Саюзу беларускіх пісьменнікаў за такі неспадзяваны падарунак.

**– Вы кіруеце Магілёўскім гарадскім літаратурным клубам «Святліца». Распавядзіце, як праходзяць паседжанні клуба? Каго са сваіх былых і цяперашніх вучняў Вы можаце вылучыць?**

– Паседжанні праходзяць па-рознаму, на дзвюх мовах, у залежнасці ад тэмы. На жаль, часта гарадскія школьнікі валодаюць беларускай мовай горш, чым ангельскай. Назваць магу некалькі чалавек. Дзяніс Сідарок – выхаванец літаратурнага аб'яднання «Творчая гасцёўня» (2005–2009). Друкаваўся ў часопісе «Дзеяслоў» (2009) і ў альманаху «Брама» (№№ 1, 2). Аляксей Карпенка – член клуба «Святліца», друкаваўся ў часопісе «Верасень» і альманаху «Брама» ( №№ 1, 2). Алена Быкава – будучы журналіст, студэнтка 3 курса МДУ імя А.А. Куляшова. Прыйшла ў клуб адзінаццацікласніцай і застаецца ў ім зараз. У 2015 годзе яна выдала кніжку рускамоўных вершаў «Другое время суток». Падаюць надзею Марыя Грамакова і Насця Падрабінкіна. З «Творчай гасцёўні» падтрымліваю ўжо сяброўскія адносіны з паэтамі Таццянай Снігіровай і Юліяй Іваніцкай.

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Тамара Аўсяннікава – паэтэса, празаік, педагог. Аўтар кніг вершаў «Ноты сэрца» (2009), «Лістапад гадоў» (2010), «Стромкая галінка» (2013), «Скрыжалі» (2015), кнігі прозы «Любачка» (2011). Нарадзілася ў 1949 г. у вёсцы Сяўкі Лоеўскага раёна на Гомельшчыне. Жыве ў Магілёве.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Аўсяннікава Тамара. Скрыжалі: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 68 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 62).**

Кніга выбраных вершаў Тамары Аўсяннікавай складаецца з трох раздзелаў: «Родныя вобразы», «У квецені вясны», «Зямное кола». Аўтар узнаўляе ў памяці дарагія сэрцу імёны і вобразы, па-філасофску асэнсоўвае зямное жыццё.




**Гінько Алена. Я думала душой...: інтымная лірыка. Прадм. Л. Дранько-Майсюка. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 116 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 63).**

У новую кнігу інтымнай лірыкі Алены Гінько ўвайшлі вершы, якія ацэніць і палюбіць беларускі чытач за кранальную шчырасць і адкрытасць пачуццяў. «Такія радкі запамінаюцца, іх хочацца занатоўваць, чытаць не толькі самому сабе, – іншым аматарам паэзіі таксама», – сцвярджае ў прадмове да зборніка паэт Леанід Дранько-Майсюк.




**Рублеўская Людміла. З'яўленне Інфанты: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 112 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 16).**

Новы зборнік Людмілы Рублеўскай – гэта гістарычныя вершы-міфы пра Беларусь старасвецкую і рыцарскую, умоўныя вершы-«дакументы» пра Беларусь інсургенцкую, расстраляную... І рэаліі Беларусі сённяшняй, фантасмагарычныя і трагедыйныя, калі часам ратуе толькі іронія. У канфіскаваным маёнтку ажывае зброя былых гаспадароў, у свядомасці часу змешваюцца бронзавыя сны і віно з дзьмухаўцоў, у краіне хома балоцікусаў забытыя могілкі – у попеле спаленых кніг... Вершы філасофскія, інтэлектуальныя, з горкай усмешкай і незнішчальным нацыянальным рамантызмам... А каб канчаткова завяршыць шлях ад пафасу, зборнік завяршае абсурдны і вясёлы «Бестыярый майго савецкага дзяцінства», дзе сустракаюцца кілька і Чабурашка, кракадзіл і таямнічы персанаж «Ікуку».




**Наркевіч Стася. Як Васілёк выратаваў каралеўства. Казка-размалёўка. Мастачка Алена Сянько. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 24 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 9).**

Казка пра хлопца Васілька, прынцэсу Дабралетку, іх незвычайныя прыгоды і сапраўднае чараўніцтва.




**Гаўф Вільгельм. Казкі. Пераклад з нямецкай. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 336 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

Свет казак Вільгельма Гаўфа – змрочны і таямнічы. Тут ёсць усё, што толькі магло прымроіцца нямецкаму рамантыку ў XIX стагоддзі: жорсткія і яркія гісторыі з краінаў Усходу, якіх ніколі не існавала, разбойнікі і караваны, што рухаюцца праз пустэльню, – і гэтыя вечныя героі, якіх палюбіла ўжо шмат пакаленняў чытачоў. Кніга ўключае казкі Вільгельма Гаўфа, якія выйшлі ў трох альманахах – за 1826, 1827 і 1828 гады, прычым першы з альманахаў быў перакладзены для гэтага зборніка цалкам. Большасць змешчаных у кнізе перакладаў друкуецца ўпершыню. Кніга праілюстраваная малюнкамі Кацярыны Дубовік.




**Багдановіч Максім. Пярсцёнак: выбраныя творы. Уклад. Ул. Сіўчыкаў. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 256 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

У кнігу ўвайшлі найбольш значныя творы класіка беларускага прыгожага пісьменства Максіма Багдановіча (1891–1917), які пры жыцці марыў і пра зборнікі паэзіі «Пярсцёнак» ды «Шыпшына». Гэтае выданне ў пэўнай ступені выконвае яго запавет.




**Барадулін Рыгор. Тастамент: выбраныя творы. Уклад. Ул. Сіўчыкаў. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 288 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

У кнігу ўвайшлі выбраныя творы Народнага паэта Беларусі, наміната на Нобелеўскую прэмію па літаратуры Рыгора Барадуліна (1935–2014). Змешчаны як хрэстаматыйныя творы, так і эсэ, запісы дый вершы апошніх гадоў і дзён.




**Баршчэўскі Ян. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. Пер. з пол. мовы, камент. Міколы Хаўстовіча. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 352 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Ян Баршчэўскі (1794(?)–1851) – адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Асноўны яго твор – «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», у якім шырока выкарыстаны беларускія легенды, казкі і паданні.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Пільштынова Саламея. Авантуры майго жыцця. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 382 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Саламея Пільштынова (1718 – пасля 1760) з роду Русецкіх паспела наведаць шмат якія краіны і гарады, вельмі далёкія ад яе «малой радзімы» – Наваградчыны. Прыгожая, разумная і вынаходлівая ліцвінка, шчодра надзеленая талентам лекаркі, не гублялася ў самых неверагодных сітуацыях ні пры двары турэцкага султана або аўстрыйскага імператара, ні ў расейскай сталіцы або палацах айчынных магнатаў Радзівілаў і Сангушкаў… «Авантуры майго жыцця» Саламеі Пільштыновай чытаюцца як захапляльны прыгодніцкі раман.




**Тарасаў Кастусь. Пагоня на Грунвальд. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 382 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Гістарычны раман Кастуся Тарасава (1940–2010) «Пагоня на Грунвальд» прысвечаны гераічнаму змаганню нашых продкаў з агрэсіяй Тэўтонскага ордэна. Кульмінацыя кнігі – векапомная Грунвальская бітва, у якой тэўтонцы былі ўшчэнт разбіты злучаным ліцвінска-польскім войскам.




**Караткевіч Уладзімір. Дзікае паляванне караля Стаха. Апошняя аповесць «Сямейных паданняў роду Яноўскіх», расказаная Андрэем Беларэцкім. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 304 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Гістарычны дэтэктыў «Дзікае паляванне караля Стаха» – адзін з найбольш папулярных твораў класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча (1930–1984). Створаная паводле класічных канонаў прыгодніцкай рамантыкі, гэтая аповесць мае і нешта сваё, адметнае, нейкую ўласцівую ёй таямніцу-загадку, якую нават цяжка растлумачыць, а можна хіба адчуць.




**Сіняя Світа. Казкі, легенды, паданні: уклад. Ул. Сіўчыкаў. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 336 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

У зборніку «Сіняя Світа» змешчаны беларускія народныя казкі, легенды, паданні, апрацаваныя і пераказаныя беларускімі пісьменнікамі Лявонам Баршчэўскім, Крыстынай Лялько, Уладзімірам Сіўчыкавым, Уладзімірам Ягоўдзікам, Алесем Якімовічам.




**Усеня Алесь. Тры дні на тым свеце: аповесці. – Мінск: Медысонт, 2015. – 250 с.**

Сюжэты аповесцяў Алеся Усені маюць неверагодныя, амаль фантастычныя завязкі, але ім, у рэшце рэшт, знаходзіцца зусім будзённае жыццёвае вытлумачэнне. Па жанры творы – трагікамедыі, у якіх драматычныя падзеі спалучаюцца з камічнымі сітуацыямі.




**Лукашук Аляксандр. Дзясяты паверх: недакументальныя творы. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 704 с.**

Кнігу беларускага пісьменніка Аляксандра Лукашука склалі мастацкія ўспаміны, недакументальныя эсэ, літаратурныя сны і вершы на замежнай мове. Пад адной вокладкай змешчана 9 кніг: Кніга быцця, Кніга зыходу, Кніга плачу, Кніга песняў, Кніга імя, Кніга царстваў, Кніга хаосу, Кніга сноў, Кніга tattoo.




**Оўржэднік Патрык. Еўрапеана. Кароткая гісторыя дваццатага стагоддзя. Пераклад з чэшскай Юліі Сматрычэнкі. – Вільня: Логвінаў, 2015. – 136 с. – (Чэшская калекцыя).**

Жанр гэтай эксперыментальнай прозы балансуе на мяжы мастацкага апавядання і эсэістыкі. А сам тэкст – гэта іранічная сумесь бессэнсоўных лозунгаў, распаўсюджаных пераканняў і стэрэатыпаў, знакаў і канцэпцыяў. XX стагоддзе паўстае перад чытачом як набор фактаў – хаатычных, на першы погляд, але на самой справе старанна падабраных, каб стварыць вобраз мінулага, які западае ў памяць, падахвочвае да разважанняў.




**Селеменев Вячеслав, Виктор Шимолин. Убийство Вильгельма Кубе. Ист.-док. очерк. – Минск: Новапринт, 2015. – 287 с.: ил.**

Кніга прысвечана аперацыі па знішчэнні стаўленіка Гітлера ў Беларусі, генеральнага камісара Вільгельма Кубе. Абапіраючыся на новыя і малавывучаныя крыніцы, аўтары развеялі таямніцы і здагадкі, што дагэтуль лунаюць вакол яе.




**Украинка Сергей. Белый аист, черное перо. – Стихи и рассказы. Смоленск: ООО Издательство «Радопа», 2014. – 160 с. – 12 илл.**

У кнізе змешчаныя творы Сяргея Украінкі на беларускай і рускай мовах. Яго вершы і проза выдзяляюцца заўважнай метафарычнасцю і сімвалізмам, пранізаныя клопатам пра захаванне тых асноваў маралі, якімі жыве душа сапраўднага патрыёта сваёй Бацькаўшчыны.

# Таццяну Сапач успомнілі ў Маркаве

**26 жніўня адбылася традыцыйная паэтычная сустрэча памяці Таццяны Сапач (Дубавец), якая трагічна пайшла з жыцця ў 2010 годзе. На радзіме паэткі ў вёсцы Маркава Маладзечанскага раёна сабраліся блізкія і сябры, а таксама вучні мясцовай школы, якія штогод далучаюцца да чытанняў.**



На запрашэнне Сяргея Дубаўца і дачкі Адэлі сёлета ў Маркава завіталі Вальжына Цярэшчанка, Кася Камоцкая, Ірына і Галіна Дубянецкія, Міхась Казлоўскі, Зміцер Бартосік, Дзяніс Раманюк, Віктар Шніп, Генік Лойка, Кірыла Насаеў, Антон Кашлікаў, Усевалад Сцебурака, Аляксандра Дорская і іншыя.

Сустрэча прайшла на падворку бацькоўскае хаты, куды грамада завітала пасля наведвання вясковых могілак, дзе знайшла свой вечны спачын Таццяна Сапач.

Вучні чыталі вершы сваёй зямлячкі, госці дзяліліся ўспамінамі пра шчырую сяброўку, таленавітую паэтку і актыўную грамадскую дзяячку, якой была спадарыня Таццяна і ў Беларусі, і ў Літве, дзе доўгі час жыла і працавала сям'я Дубаўцоў.

Сяргей Дубавец, які распачаў імпрэзу, прывітаў усіх гасцей і шчыра падзякаваў маладым маркаўчанам за ўдзел у сустрэчы.

Цёплымі згадкамі пра сяброўства і часы навучання з Таццянай Сапач падзяліўся яе колішні аднакурснік па журфаку БДУ, Старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч.

Пісьменнік Уладзімер Арлоў прачытаў артыкул з кнігі «Імёны свабоды», прысвечаны Таццяне, а таксама некалькі вершаў.

Верш памяці Таццяны Сапач прачытаў паэт Віктар Шніп. Напрыканцы адбыўся невялікі музычны выступ Уладзя Лянкевіча. А вучні маркаўскай школы атрымалі ў дар ад гасцей новыя беларускія кнігі для сваёй бібліятэкі.

**Прэсавая служба СБП**

# Давід Шульман прэзентаваў новую кнігу

17 чэрвеня ў мінскай кнігарні «ЛогвінаЎ» адбылася прэзентацыя кнігі ізраільска-беларускага празаіка, сябра СБП і Беларускага ПЭН-Цэнтра Давіда Шульмана. Вечарыну наведалі калегі, сябры, аднадумцы і прыхільнікі творчасці літаратара.

Нягледзячы на тое, што спадар Давід ужо шмат гадоў жыве і працуе ў ізраільскім горадзе Эйлаце, ён ніколі не забываўся на Беларусь, дзе нарадзіўся і вырас. Празаік піша на некалькіх мовах – беларускай, рускай, ідыш. Яго новая беларускамоўная кніга «З вялікай літары «Б», апублікаваная ў выдавецтве «Кнігазбор», па сутнасці з'явілася працягам папярэдняй кнігі прозы, што выйшла два гады таму і таксама была прэзентаваная ў Мінску.



Андрэй ХАДАНОВІЧ і Давід ШУЛЬМАН.

Паводле словаў пісьменніка Уладзімера Арлова, Давід Шульман фактычна адзіны ізраільскі аўтар, які піша па-беларуску. Пра ўнікальнасць і важнасць міжкультурнага супрацоўніцтва гаварылі таксама іншыя выступоўцы: грамадскі дзеяч, выкладчык, перакладчык Лявон Баршчэўскі, Старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра, паэт і перакладчык Андрэй Хадановіч.

Цягам прэзентацыі аўтар зачытваў фрагменты апавяданняў з новай кнігі, многія з якіх маюць аўтабіяграфічны характар. Тэматыка твораў разнастайная – ад жартоўных і самаіранічных аповедаў пра часы ліхіх 1990-х у Беларусі да трагічных успамінаў відавочцаў, сваякоў спадара Давіда, часу Другой сусветнай вайны, калі ад генацыду пацярпела, без перабольшання, амаль кожная яўрэйская сям'я.

Завяршылася вечарына аўтограф-сесіяй Давіда Шульмана.

**Тэкст і фота: Віка Трэнас, для lit-bel.org**




**Юрэвіч Лявон. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 624 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 25).**

Кніга беларускага архівіста з ЗША Лявона Юрэвіча «Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія» (25-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») адлюстроўвае разнастайнасць даследавання, рэпрэзентацыі і спадчыннасці справы беларускага першадрукара на эміграцыі. Пад адной вокладкай можна знайсці і скарыназнаўчыя тэксты беларусаў часоў міжваеннай Празе ці паваеннай Нямеччыны, і змястоўнае ліставанне аднаго з найбольш значных зміграцыйных скарыназнаўцаў В. Тумаша, і аўтарскія аповеды пра рэдкія выданні, выдаўдоў, інстытуцыі, што працягвалі Скарынаву справу на Захадзе цягам XX–XXI стст.




**Чыгрын Сяргей. Шляхамі Беласточчыны: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 208 с.**

У сваёй новай кнізе Сяргей Чыгрын працягвае даследаваць лёсы беларусаў, якія родам з Беласточчыны, а таксама жыццёвыя дарогі знакамітых асобаў Бацькаўшчыны, якія ў розны час мелі і маюць сёння дачыненне да беластоцкай зямлі.




**Чаропка Вітаўт. Іван Хруцкі: Выдатны мастак з Полаччыны. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Жывапісец Іван Хруцкі (1810–1885) з Полаччыны назаўсёды ўвайшоў у гісторыю беларускага мастацтва як выдатны майстар нацюрморта і бліскучы партрэтыст. Акрамя таго ён пісаў пейзажы і жанравыя кампазіцыі, ствараў іканастасы ў цэрквах і саборах Вільні і Коўна. У сувязі з 200-годдзем з дня нараджэння на Беларусі адбылося «другое адкрыццё» творчасці І. Хруцкага.




**Падліпскі Аркадзь. Аляксей Сапуноў: Гісторык і краязнаўца Віцебшчыны. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Аляксея Сапунова (1851–1924) сучаснікі называлі «віцебскім Карамзіным». За ўсю сваю шматвекавую гісторыю Полацка-Віцебская зямля не ведала больш кампетэнтнага і апантанага даследчыка мінулага. З 73 гадоў жыцця 43 ён займаўся вывучэннем гісторыі роднага краю. Яму належаць амаль 60 кніг і брашур, шмат артыкулаў, перакладаў, энцыклапедычных даведак.




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Выпуск 15. Составление и редактирование А. Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2015. – 320 с.**

Пятнаццаты выпуск дайджэста ўключае ў сябе 21 артыкул, што згрупаваны ў чатыры тэматычныя раздзелы: «На полях сражений историков»; «Наша старина»; «Война с народом»; «Между городом и болотом».




**Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Выпуск 5. Укладальнік і рэдактар А.Я. Тарас. – Рыга: выданне ІБГіК, 2015. – 234 с.**

Пяты выпуск «Запісаў» складаецца з трох частак. Першая частка займае 103 старонкі. Яе 7 артыкулаў асвятляюць шэраг пытанняў беларускай гісторыі перыяду XV–XIX стст. У другой частцы (3 артыкулы, 52 старонкі) разглядаюцца падзеі, звязаныя з вайной 1941–1945 гг. і з рэпрэсіямі супраць народа ў паваенны перыяд. Трэцяя частка (5 артыкулаў, 75 старонак) прысвечана актуальным праблемам сучаснасці.




**«Асоба і час». Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 6. Уклад. Л. Лаўрэш, А. Фядута. – Мінск: Лімарыус, 2015. – 366 с.**

У шостым выпуску беларускага біяграфічнага альманаха «Асоба і час» змешчаны цікавыя для аматараў айчыннай гісторыі і культуры матэрыялы. Сярод іх – дакументы з беларускіх, французскіх і расійскіх архіваў, датычныя ўдзельнікаў Барскай канфедэрацыі і паўстання 1863 года, а таксама пісьменнікаў XIX ст.; успаміны пра Сакрата Яновіча і Кіма Хадзеева; недрукаваныя лісты Зоські Верас, Піліпа Пестрака; карэспандэнцыя «Нашай Нівы» часу Янкі Купалы; фрагменты стэнаграмаў партыйнага з'езда, на якім вырашаўся лёс Аляксандра Чарвякова і Мікалая Галадзеда. Асобны раздзел прысвечаны ўспамінам жыхароў Ліды розных часоў.




**Духу магутныя чары...: Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах. Уклад., прадм., камент. Міхася Скоблы. – Мінск: Лімарыус, 2015. – 415 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Кнігай людской удзячнасці можна назваць гэты зборнік успамінаў пра выдатную паэтку Ларысу Геніюш (1910–1983). Асобай надзвычай прыцягальнай, чалавекам нязломнага духу, чыё слова запальвала беларускія сэрцы, паўстае яна ў памяці тых, хто яе ведаў. Асобны раздзел склалі адрасаваныя ёй лісты К. Езавітава, У. Караткевіча, Я. Найдзюка, Ф. Янкоўскага ды інш. Зацікавяць чытача і архіўныя тэксты, якія істотна дапаўняюць жыццяпіс «унучкі Францішка Скарыны» (выраз Р. Барадуліна).




**Блінец Андрэй. Клецкія бітвы: 1506 і 1706 гады. – Мінск: А. М. Янушкевіч, 2015. – 130 с.: іл.**

У кнізе распавядаецца пра дзве ваенныя падзеі, якія аб'ядноўвае адно месца здарэння. Пад Клецкам у 1506 і 1706 гг. адбыліся бітвы, якія значна паўплывалі на гістарычнае развіццё Беларусі. Разгром крымскіх татараў войскам Вялікага Княства Літоўскага ў жніўні 1506 г. з'яўляецца адной з найбольш славутых перамогаў у айчыннай гісторыі. Бітва паміж шведскімі і расійска-ўкраінскімі злучэннямі вясною 1706 г. стала кульмінацыяй баявых дзеянняў у Наваградскім ваяводстве падчас Вялікай Паўночнай вайны. У дадатках змешчаны шэраг малавядомых дакументаў XVI і XVIII стст., некаторыя з якіх друкуюцца ўпершыню.




**Прыватнаўласніцкія гарады Вялікага Княства Літоўскага: лёс праз стагоддзі: зб. матэрыялаў міжнар. навук.-практ. канф. (Нясвіж, 23–24 красавіка 2014 г.). Уклад. З.Л. Яцкевіч; рэдкал.: С.М. Клімаў, З.Л. Яцкевіч, А.У. Блінец. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2014. – 236 с.: іл.**

У зборніку змешчаны матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Прыватнаўласніцкія гарады Вялікага Княства Літоўскага: лёс праз стагоддзі», што адбылася ў красавіку 2014 г. у ДУ «Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж». Прадстаўленыя артыкулы закранаюць шырокі спектр пытанняў, якія датычаць лёсу прыватнаўласніцкіх гарадоў: палітычная гісторыя, эканамічнае і культурнае развіццё, гарадская штодзённасць, музеефікацыя і захаванне помнікаў гісторыі і г.д. У навуковы ўжытак уводзіцца шэраг раней невядомых дакументаў і фактаў па гісторыі Беларусі, Украіны, Польшчы і Літвы. Выданне прызначана для гісторыкаў, краязнаўцаў, музейных работнікаў і ўсіх, хто цікавіцца спадчынай Вялікага Княства Літоўскага.




**Помнікі права Беларусі XIV–XVI стст.: агульназемскія прывілеі і акты дзяржаўных уній: крыніцазнаўчы дапаможнік. Склад: Г.Я.Галенчанка, А.А.Жлутка, А.А.Мяцельскі [і інш.]. – Мінск: БелНДІДАС, 2015. – 388 с.**

У кнізе змешчана інфармацыя пра асноўныя помнікі права Беларусі XIV–XVI стст. (агульназемскія прывілеі і акты дзяржаўных уніяў), якая ўключае звесткі пра захаванасць арыгіналаў актаў і копіяў, публікацыі, пераклады, гістарычную літаратуру. Прыведзены тэксты і пераклады на беларускую мову некаторых прывілеяў і актаў уніяў. Кніга ілюстравана фотаздымкамі актаў і старадрукаў, малюнкамі пячатак. Выданне прызначана для архівістаў, археографаў, правазнаўцаў, гісторыкаў, студэнтаў.




**Голубеў Валянцін, Кітурка Ірына. Гісторыя Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. – Санкт-Пецярбург: Неўскі прастор, 2014. – 170 с.**

У вучэбным дапаможніку сцісла і паслядоўна выкладзены асноўныя моманты гісторыі Беларусі ад старажытнасці да падзелаў Рэчы Паспалітай, да ўключэння беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі. У канцы кожнай тэмы раскрываюцца асноўныя тэрміны, даецца храналогія падзеяў, вызначаюцца кантрольныя пытанні і заданні. Дапаможнікам могуць карыстацца ўсе, хто цікавіцца гісторыяй сваёй краіны.




**Дзятко Д.В. Прафесар Міхаіл Гапеевіч Булахаў: нарыс жыцця і навуковай дзейнасці. – Мінск: Медысонт, 2015. – 100 с.**

Кніга прысвечана жыццю і навуковай спадчыне Міхаіла Гапеевіча Булахава (1919–2012) – доктара філалагічных навук, заслужанага дзеяча навукі, вядомага мовазнаўцы і педагога, які шмат зрабіў для развіцця ўсходнеславянскай лінгвістыкі. Ён аўтар фундаментальных слоўнікаў і энцыклапедыяў, якія не маюць аналагаў у іншых славянскіх краінах, а таксама больш за 300 грунтоўных публікацыяў па беларускай, рускай і інш. славянскіх мовах.




**Мятлеўская Ларыса. «Беларускі кулінарны сшытак». – Мінск: Белваргруп, 2015. – 136 с.**

Дадзеная кніга змяшчае больш за 100 рэцэптаў старажытнай беларускай кухні, сабраных вядучай тэлевізійнага кулінарна-гістарычнага шоу «Беларуская кухня» Белтэлерадыёкампаніі Ларысай Мятлеўскай. Большасць рэцэптаў была знойдзена аўтаркай у падарожжах па Беларусі, а некаторыя з іх узяты са старажытных беларускіх кулінарных кніг і апрабаваны ў жыцці.




**Дракахруст Юры. Сем худых гадоў. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. – 406 с.**

Кнігу складаюць 63 блогі аналітыка Радыё Свабода Юрыя Дракахруста, якія з'явіліся на сайце svaboda.org у 2008 – 2014 гг. Гэтыя тэксты – хроніка бягучых падзеяў і адначасна – спроба разгадаць загадкі беларускай будзённасці, вызначыць сэнсы таго, што адбываецца, прадбачыць трэнды пераменаў. Да большасці блогаў дададзеныя дыскусіі, якія вяліся з іх нагоды наведнікамі сайту Свабоды, а таксама – пазнейшая ацэнка прагнозаў аўтара.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89
А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, ebooks.prestigioplaza.com і e-kniga.by

■ ПОГЛЯД

# «Карціна свету» адной асобы...

**Лапацін Генадзь. Варвара Грэцкая як з'ява беларускай народнай культуры. – Гомель: Барк, 2015. – 248 с.**

«Варвара Грэцкая як з'ява беларускай народнай культуры» – унікальная кніга, у якой упершыню ў беларускай фалькларыстыцы ад адной асобы быў запісаны фактычна ўвесь фальклорна-этнаграфічны комплекс населенага пункта. Супрацоўнік Веткаўскага музея старабрадніцтва і беларускіх традыцыяў імя Ф.Р. Шклярава Генадзь Лапацін правёў шмат сустрэчаў з Варварай Аляксандраўнай Грэцкай, якая нарадзілася ў пасёлку Амяльное Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці, і з 2005 па пачатак 2014 года занатаваў ад яе вялікую колькасць тэкстаў традыцыйнай культуры. Гэта – песні каляндарнага і сямейна-побытавага цыклаў, лірычныя, дзіцячыя, рэкруцкія, жартоўныя, сіроцкія песні, прыпеўкі, апісанні звычаяў і абрадаў, прадпісанні, забароны, былічкі, легенды, прыкметы, павер'і. У выданні захаваныя дыялектныя асаблівасці маўлення Варвары Грэцкай, што дапамагае перадаць мясцовыя традыцыі і яе стаўленне да іх, а таксама індывідуальнае светаўспрыманне, характар, адносіны да жыцця і шмат іншага. Уражвае і захапляе колькасць ведаў Варвары Грэцкай. Яна памятае столькі звычаяў, абрадаў, павер'яў, песняў, што ў іх сапраўды адлюстравалася душа народа, яго калектыўная памяць.

З даўніх часоў веды передаваліся з пакалення ў пакаленне, і дзякуючы гэтай кнізе народнае багацце захоўваецца і пяройдзе ў спадчыну нашчадкам: «Пачытай мае ўсе песні,.. а якую не пачанеш, дак ума набярэшся. Яны ўсі талковыя». Варта сказаць вялікі дзякуй Генадзю Лапаціну за праведзеную агромністую даследчую працу.




**А.С.**

■ АЎТОГРАФ

# «Навучаючы, мы вучымся самі...»

(Пачатак на стар. 1)

Але ж мая задача рыхтаваць не паэтаў, гэта марная праца і нават шкодная. Мы вучымся разумець паэзію.

Галоўнае, што члены клуба – гэта своеасаблівае братэрства – братэрства аднаго духоўнага памкнення. Мы супрацоўнічаем з бібліятэкамі горада і Магілёўскім аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў, удзельнічаем у конкурсах, ладзім літаратурныя вечарыны. У нас два асноўныя кірункі: паэзія і журналістыка. Таму самі пра сябе пішам і друкуемся ў перыядычных выданнях рэгіёна. У гэтым годзе на журфак у ЕГУ паступілі тры дзяўчынкі. Сустракаліся з магілёўскімі пісьменнікамі: Эдуардам Мядзведскім, Таццянай Барысік, Надзеяй Палубінскай, Вольгай Гардзей, Сяргеем Украінкам, Міхасём Булавацкім, Міколам Яцковым; а таксама са сталічнымі: Андрэем Хадановічам, Людмілай Рублеўскай, Вікай Трэнас, бардам Юрыем Несцярэнкам, Ганнай Янкута, Алесяй Башарымавай, Ігарам Крэбсам, навучэнцамі мінскай Школы маладога пісьменніка.

Адна з галоўных маіх задачаў – каб члены клуба бачылі вынікі сваёй працы, таму ў канцы кожнага навучальнага года саматужна выдаем кніжачку найлепшых твораў.

**– Якую кніжку (кніжкі) Вы цяпер чытаеце? Каго Вы лічыце сваімі настаўнікамі ў літаратуры, творчасць якіх пісьменнікаў найбольш паўплывала на станаўленне Вас як творцы?**

– Толькі што прачытала новую кнігу эсэістыкі Ніла Гілевіча «У віры быцця» і напісала водгук. З цікавасцю чытаю ўспаміны, дзённікі, публіцыстыку, літаратуразнаўчыя артыкулы. Узрост!.. Мае настольныя кнігі – усялякія слоўнікі і даведнікі, навуковыя даследаванні. Напрыклад: «Міфалогія беларусаў», «Паэтычны слоўнік» В.П. Рагойшы, «Ритмология» А.П. Квяткоўскага, «Историческая поэтика» С.Н. Бройтмана, «Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў», «Новы запавет» 1895г., які знайшла каля пад'езда, – нейкі спадчыннік выкінуў за непатрэбнасцю. І паэзія, паэзія… Асноўнае чытанне скіраванае на працу з моладдзю, на іх запатрабаванні, вучуся разам з імі. Маё жыццёвае крэда: Docendo discimus (навучаючы, мы вучымся самі) і Viam supervadet vadens (дарогу адолее той, хто ідзе). На жаль, кніг з грунтоўным даследаваннем беларускай паэзіі мне не траплялася, таму карыстаюся рускімі. Сачу за навінамі сайта Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Каго лічу настаўнікамі ў літаратуры? Перш за ўсё – сваю маці, Краўчанка Макрэну Пятроўну. Яна мела чатыры класы царкоўнапрыходскай школы, выдатную памяць і голас амаль у тры актавы. Менавіта яе голасам гучаць для мяне многія вершы рускіх паэтаў і беларуская народная песня. Настаўнікам на ўсё жыццё стаў Ніл Сымонавіч Гілевіч.

**– Вы сябравалі з Яўгеніяй Янішчыц, склалі радавод паэтэсы. Цяпер разам з дацэнтам Інстытута мовы і літаратуры Святланай Калядка Вы працуеце над укладаннем шматтомнага збору твораў беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц. Распавядзіце, калі ласка, як ідзе праца над выданнем? Калі выйдзе першы том, што чакае чытачоў у гэтых кнігах?**

– Праца ідзе. Можа, не так хутка, як хацелася б. Гэта не заказ, а наша са Святланай Уладзіміраўнай ініцыятыва, таму даводзіцца сумяшчаць з асноўнай працай. Шмат матэрыялаў знойдзена. Але ўсё сабраць наўрад ці ўдасца – час імклівы, людзі адыходзяць, многае страчана. Вялікую дапамогу аказвае сын паэткі Андрэй Сяргеевіч, а таксама дырэктар, заснавальнік музея Яўгеніі Янішчыц Антаніна Паўлаўна Сідарук. Дзякуючы ёй з'явіўся радавод... На імя Жэні Янішчыц адгукаюцца практычна ўсе, за рэдкім выключэннем. І гэта нармальна.

Выпуск першага тома запланаваны на 2015 год. Не ўдалося нам пераадолець некаторыя выдавецкія бар'еры і адстаяць шасцітомнае выданне. Будзе трохтомнік у чатырох кнігах. Прыхільнікі творчасці Яўгеніі Янішчыц, і не толькі яны, знойдуць для сябе шмат цікавага.

## «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Ніл Гілевіч. У віры быцця. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 60). – 184 с.**

У кнігу Народнага паэта Беларусі ўвайшлі ўспаміны пра значныя падзеі грамадскага і культурнага жыцця, адлюстраваныя рэфлексіі пісьменніка, яго бачанне мінулага, цяперашняга і будучыні роднай краіны. Паэт чуйна рэагуе на сацыяльныя працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі і за яе межамі, дае ім ацэнку, прагназуе развіццё нашай нацыянальнай свядомасці.

Значнае месца на старонках новага выдання адведзенае апісанню і аналізу прачытанай літаратуры, айчыннай і замежнай, сучаснай і даўняй. Ніла Сымонавіча як чытача і даследчыка цікавяць тэндэнцыі і гісторыка- культурныя перадумовы стварэння тых або іншых кніг.

Па-ранейшаму важную ролю, паводле меркавання паэта, у стане сучаснай нацыянальнай культуры адыгрышаюць ідэалагічныя інерцыі мінулага, «рэха» камунізму. Пераадолець кансерватыўнасць савецкага часу, звярнуцца да нацыянальнай ідэнтычнасці, жыццёва неабходнай нам сёння, тут і цяпер, дзеля фарміравання будучых пакаленняў – тое, што найбольш турбуе пісьменніка:

«Усе нашы заклікі захоўваць, даражыць, цікавіцца нацыянальнай культурай будуць даваць мала плёну – датуль, пакуль не пачнем гэта ўнушаць дзецям ад калыскі, ад дзіцячых садкоў, з першых дзён у школе».

Але ж, нягледзячы на суплёт пакуль не вырашаных сацыяльных і культурных праблем, на якія ўказвае і з-за якіх перажывае Народны паэт, у кнізе «У віры быцця» адчуваецца подых вясны, надзеі, аптымізму на добрую будучыню беларусаў і Беларусі.

Асобна варта адзначыць дужа крэатыўную працу мастака вокладкі.




**Дар'я Вашкевіч. Бабаўняная дзяўчынка. – Мінск: Галіяфы, 2014. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 5). – 16 с.**

Серыя «Каляровы ровар» папоўнілася новай дзіцячай кнігай – «пра і для дзяўчатак і хлопчыкаў ад двух да ста дзевятнаццаці гадоў». Гэтая казка заняла другое месца ў літаратурным конкурсе «Экслібрыс» імя Янкі Маўра. Стварылі «Бабаўняную дзяўчынку» Дар'я Вашкевіч (тэкст) і Алена Медзякова (малюнкі). Паводле анатацыі, гісторыю пра бабаўняную дзяўчынку можна чытаць «удзень і ўначы, нашча ці толькі што пад'еўшы, лежачы пад коўдраю або ўскараскаўшыся на яблыню».

«З дзецьмі трэба размаўляць, як з дарослымі, трэба дапамагчы ім зразумець і адчуць літаратурны сюжэт, – мяркуе Алена Медзякова. – Героі гэтай гісторыі – дзяўчынка, хлопчык і іншыя – валодаюць незвычайнымі якасцямі. Як гэта – бабаўняная дзяўчынка? Якая яна? У выніку нарадзіўся такі «бабаўняны» вобраз – дзяўчо з рудымі, надзвычай даўгімі, мяккімі валасамі і простым адкрытым тварам».

Пісьменнік стварае гісторыю, мастак падштурхоўвае чытацкую фантазію, а самая галоўная справа – за маленькім чытачом, які ажыўляе і казку, і яе герояў.

## КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 33
жнівень, 2015
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 33 28.08.2015.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com